


(Працяг. Пачатак у №№ 50-54 )

# ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ПАДШЫЎКІ

## ГОД 1942-і

### НАД МАГІЛАМІ ВАРУШЫЛАСЯ ЗЯМЛЯ

Акупанты планамерна, з нечуванай жорсткасцю знішчваюць мірнае насельніцтва Беларусі. У горадзе Петрыкаве немцы расстралялі большую частку жыхароў, а дзяцей жывымі патапілі ў рэчцы. У Ельску немцы пасадзілі на баржу больш за 500 жанчын і дзяцей, шэсць дзён вазілі іх галоднымі па рацэ Прыпяці, а затым утапілі. У Суражы немцы загналі 700 чалавек у замініраваны роў — тых, якія ўцалелі пасля разрыву мін, яны расстралялі з аўтаматаў. У Шклове немцы расстралялі 600 мужчын і жанчын, а дзяцей жывымі кінулі ў ямы разам з забітымі бацькамі і закідалі зямлёй...

(«Раздавім фашысцкую гадзіну», № 45.)

### РАСПРАВА ФАШЫСТАЎ З НАСЕЛЬНІЦТВАМ МІНСКА

**У пачатку мая немцы павесілі ў Мінску 30 грамадзян і расстралялі 120. Фашысцкія бандыты абвясцілі іх «кіраўнікамі шырока разгорнутай арганізацыі, якая на працягу доўгага часу забяспечвала партызанскія атрады харчаваннем, зброяй, медыкаментамі».**

**Гітлераўская газета «Дойчэ цайтунг ін Остланд» не можа скрыць росту партызанскага руху ў Беларусі.**

(«Савецкая Беларусь», 10 чэрвеня.)

### ЗБОР ПАДАРУНКАЎ ПАРТЫЗАНАМ БЕЛАРУСІ

Моладзь Казані і Зеленадольска арганізавала збор падарункаў партызанам Беларусі. У горадзе Казані ўжо сабрана падарункаў больш як на 400 тысяч рублёў.

(«Савецкая Беларусь», 16 чэрвеня.)

### ПАМЯТИ ЯНКИ КУПАЛЫ

28 июня, на шестидесятом году жизни, умер великий сын своего народа, один из основоположников белорусской литературы, непревзойденный мастер художественного слова, выдающийся белорусский просветитель Янка Купала...

Светлый облик народного поэта Янки Купалы, его бескорыстное служение Советской Родине вдохновляют сынов и дочерей Белоруссии в их справедливой, священной войне против немецко-фашистских варваров...

(«Учительская газета», 2 июля.)

### ПАРТЫЗАНЫ НЕ ЗДАЮЦЦА!

**Герой Савецкага Саюза, малады беларускі партызан Міхаіл Сільніцкі ў жорсткім, няроўным баі стрымліваў шалёны націск немцаў. Не стала патронаў. Сільніцкі смяртэльна ранены. Ён у акружэнні ўжо смакуючага перамогу ворага. Але партызаны не здаюцца! Абліваючыся крывёю, Сільніцкі стаў ва ўвесь рост і з нажом-фінкай у руках пайшоў на насядаўшых фашыстаў...**

Міша загінуў у гэтым баі, але вораг не прайшоў...

(«Раздавім фашысцкую гадзіну», № 58, жнівень.)

### НЕМЕЦ ХОЧА ЗРАБІЦЬ ЦЯБЕ РАБЫНЯЙ!

Дзяўчына! Прачытай пісьмо сваёй падругі Олі Селязнёвай, якая завезена рабаўласнікамі ў горад Кёльн і прададзена на рынку нявольнікаў:

«...Намі пачалі гандляваць, і нас, дзяўчат, бралі каму колькі хацелася, як рабоў. Куды прадалі Марусю, не ведаю. Працую ад цямна да цямна, з мяне тут смяюцца, а я плачу. Раблю ўсё, што патрабуе гаспадар. Таня, як добра, што ты не паехала. А нагул, мяне прадалі навечна. Не злуйце, мама, я вам пішу ўсю праўду...»

Такі горкі лёс чакае кожнага, хто пападзе ў фашысцкі палон. Хочаш быць свабоднай — ідзі ў партызанскі атрад.

(З лістоўкі, выдадзенай ЦК ЛКСМ Беларусі ў 1942 г.)

### БОИ ЗА СТАЛИНГРАД

**Действующая армия, 2 октября (спец. корр. ТАСС).**

**Ожесточенные бои за Сталинград продолжаются с нарастающей силой. Противник особенно усилил натиск на одном из участков Заводского района.**

**Непрерывным атакам подвергаются позиции, занимаемые бойцами Н-ской гвардейской части. Каждая атака стоит гитлеровцам большой крови, но немецкое командование, не считаясь с потерями, бросает в бой новые части.**

(«Правда», 3 октября.)

### СДЕЛАНО В ВЕЛИКОБРИТАНИИ

Во время своего пребывания в Москве лорд Бивербрук обязался от нашего имени поставить вооружение для Советского Союза. Танкостроители Великобритании с готовностью приняли это обязательство. Они рады, что могут своим трудом содействовать пополнению вооружения Красной Армии.

(«Британский союзник», 25 октября.)

### ВЕЛИЧАЙШЕЕ СРАЖЕНИЕ В МИРОВОЙ ИСТОРИИ

**СТОКГОЛЬМ, 28 ноября (ТАСС). Газеты продолжают широко комментировать сообщение о наступлении советских войск в районе Сталинграда.**

**Газета «Эребру Куририен» в передовой статье пишет, что сражение за Сталинград «стало величайшим сражением в мировой истории. Несмотря на все, защитники удержались в городе».**

(«Советская Сибирь», 1 декабря.)

### ВСЕ СБЕРЕЖЕНИЯ — НА ПОСТРОЙКУ САМОЛЕТОВ

Простой советский человек, колхозник колхоза «Стахановец» Ново-Покровского района Саратовской области Ферапонт Петрович Головатый внес на постройку боевого самолета 100 тысяч рублей. Товарищ Сталин ответил тов. Головатому: «Красная Армия не забудет, что Вы отдали все свои сбережения на постройку боевого самолета».

(«Правда», 21 декабря.)

Вядучы рубрыкі Генадзь ЛАГУНОВІЧ, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

(Працяг будзе.)

ТРАНСПАРТ

# БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА ПРОСІЦЬ ПАРАТУНКУ

Сігналам «SOS» стаў зварот Рэспубліканскага прафсаюза чыгуначнікаў і транспартных будаўнікоў і Савета Беларускай чыгункі да Прэзідэнта рэспублікі А.Лукашэнкі, Старшыні Вярхоўнага Савета М.Грыба і прэм'ер-міністра М.Чыгіра.

«На прадпрыемствах чыгункі склалася напружанае становішча, — гаворыцца ў ім. — Ва ўмовах кругласутачнай работы зарплата чыгуначнікаў значна адстае ад зарплаты работнікаў іншых відаў транспарту і многіх галін прамысловасці».

У звароце ўтрымліваецца просьба работнікаў галіны аб павелічэнні стаўкі 1-га разраду не менш чым у 2 разы і аб увядзенні каэфіцыента за асаблівыя ўмовы працы для чыгуначнікаў у памеры 1,3.

Але не толькі зарплата не задавальняе чыгуначнікаў. Чыгунка мае патрэбу ў дзяржаўнай дапамозе для рамонту і аднаўлення асноўных фондаў (лакаматываў, пуці, збудаванняў). Асабліва цяжкае становішча склалася з рухомым саставам, які забяспечвае пасажырскія перавозкі, што з'яўляюцца стратнымі для дарогі. Толькі за 1994 год страты склалі 81,7 мільярда рублёў, што адпавядае гадавому аб'ёму інвестыцый у вытворчасць. З 90 пасажырскіх цеплавозаў ЦЭЦ-60 75 выпрацавалі матарэсурс, з 15 цеплавозаў 2ЦЭЦ-60 — 9, з 97 дызельцягнікоў неадкладнай замены патрабуюць 40. Для захавання бяспекі руху цягнікоў сёлета толькі для рамонту пуці патрабуецца больш за 1 трыльён рублёў. Акрамя таго, неабходна выканаць вялікі аб'ём работ па рамонту электра- і дызельцягнікоў, пасажырскіх і грузавых вагонаў, вакзалаў.

Святлана ЮЗІК, БелаПАН.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# УНІФІКАЦЫЯ ХУТКА ЗАВЯРШЫЦЦА

«Адрозненнем пагаднення паміж Беларуссю і Расіяй аб стварэнні мытнага саюза, удзельнікам якога выказаў жаданне стаць і Казахстан, ад раней падпісанага ў рамках СНД дакумента аб прынцыпах мытнай палітыкі з'яўляецца тое, што цяпер прадугледжана этапнасць рэалізацыі палажэнняў гэтага пагаднення», — заявіў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта рэспублікі Пётр Крэчка на прэс-канферэнцыі.

Паводле яго слоў, на першым этапе будзе зроблена уніфікацыя дзеючага заканадаўства краін-удзельніц пагаднення ў мытнай сферы і сферы рэгулявання знешнеэканамічнай дзейнасці. Толькі пасля гэтага павінна адбыцца зняцце мытных бар'ераў, рэальна пачне існаваць адзіная мытная прастора. На гэтым жа, другім, этапе дзяржавы распрацуюць агульны мытны тарыф да трэціх краін, узгодняць памеры мытных ставак. На рэалізацыю бакамі першага этапа адведзена чатыры месяцы, і ўжо да 6 мая ўсе неабходныя працэдуры, прадугледжаныя пагадненнем, павінны быць ажыццёўлены. Дзяржаўным мытным камітэтам ужо падрыхтаваны адпаведныя прапановы па ўнясенні змяненняў у Мытны кодэкс Рэспублікі Беларусь і Закон аб мытным тарыфе.

Як заявіў П.Крэчка, уніфікацыя дзеючага мытнага заканадаўства не азначае, што прававая база Беларусі будзе перабудавана па ўзору расійскага ці казахстанскага заканадаўства ў гэтай сферы. Старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта запэўніў, што будзе ўлічаны станоўчы вопыт кожнай з дзяржаў. Для выканання трохбаковага пагаднення ўрадамі Беларусі, Расіі і Казахстана распрацавана праграма канкрэтных дзеянняў. У рамках мытнага саюза прадугледжваецца і стварэнне спецыяльных структур, якія будуць каардынаваць уніфікацыю мытнага заканадаўства, спрашчэнне парадку перамяшчэння тавараў праз тэрыторыі гэтых трох краін. Пагадненне аб адзінстве кіравання мытнымі службамі прадугледжвае таксама і стварэнне прадстаўніцтваў пры мытных службах Расіі, Беларусі і Казахстана. Але калі пытанне аб прысутнасці ў Мінску прадстаўнікоў расійскай мытні практычна вырашана, то пакуль невядома, ці будуць створаны беларускія прадстаўніцтвы ў Расіі і Казахстане. Як паведаміў кіраўнік Дзяржаўнага мытнага камітэта, усё ўпіраецца ў фінансавыя цяжкасці, да таго ж, неабходна разгледзець мэтазгоднасць такога кроку.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.

КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ

# НАВУЧАЦЬ ГРОШЫ ЛІЧЫЦЬ І ПАДАТКІ ПЛАЦІЦЬ

Кабінет міністраў няўхільна працягвае пачатую нядаўна сумесна з Нацыянальным банкам работу па ўкараненню ў рэспубліцы парадку па аснашчэнню кожнага пункта стацыянарнага гандлю касавымі апаратамі і камп'ютэрнымі сістэмамі. Выдадзена чарговая пастанова аб стварэнні экспертнай камісіі, у якую ўвайшла вялікая група спецыялістаў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі, Міністэрства прамысловасці, Міністэрства па антыманапольнай палітыцы, Фонду інфарматызацыі, аб'яднанняў, якія выпускаюць электронна-вылічальную тэхніку, Камітэта па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі. У самыя бліжэйшыя тэрміны яна павінна будзе стварыць дзяржаўны рэестр касавых падсумоўваючых апаратаў і камп'ютэрных сістэм, выкарыстоўваемых на тэрыторыі Беларусі, сфармуляваць парадак ліцэнзавання гэтай дзейнасці, іх рэгістрацыі ў падатковых органах, абслугоўвання, рамонту. Карацей кажучы, нарэшце павінен быць парадак у прыёме грашовых сродкаў пры рэалізацыі прадукцыі, работ, паслуг за наяўны разлік.

Таццяна СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

ФОТАПОЗІРК

# НА ВУЛІЦАХ ГОРАДА



Фота Вільгельма ДУБІЛОВІЧА.

ДОСЬЕ «ДВ»

# ПРЕСТУПЛЕНИЯ: ТРЕВОЖНЫЙ СЧЕТ

По данным Минстата страны, в январе-феврале в Беларуси зарегистрировано 21,3 тысячи преступлений, что на 26% больше, чем за аналогичный период 1994 года. В расчете на 10000 жителей совершено 21 преступление.

За два месяца совершено 4,9 тысячи преступлений, что на 77% больше, чем за январь-февраль минувшего года, в том числе 1,1 тысячи грабежей (на 27% больше), 192 разбойных нападения (на 30% больше).

Умышленных убийств и покушений на убийство зарегистрировано 150, что на 39% больше, чем за январь-февраль 1994 года.

По-прежнему самым распространенным видом преступлений остаются кражи имущества — 12,5 тысячи случаев, что на 30% больше, чем за два месяца прошлого года. Не уменьшается число краж из квартир: их зарегистрировано 2,8 тысячи, или на 28% больше.

В сфере экономики выявлено 4,2 тысячи преступлений (прирост к январю-февралю 1994 года составил 29%), в том числе 271 хищение в крупных и особо крупных размерах.

Несовершеннолетними и при их соучастии совершено 1,2 тысячи преступлений (1,3%), лицами, находившимися в состоянии опьянения — 2,8 тысячи (2,7%).

Лицами, ранее уже преступившими закон, было совершено 2,4 тысячи преступлений, или на 10% больше, чем за такой же период прошлого года.

Зарегистрировано 2,4 тысячи групповых преступлений, что на 225 (на 10%) больше, чем за такой же период прошлого года.

Правоохранительными органами выявлено 8,8 тысячи лиц, совершивших преступления (прирост составил 12%), из них несовершеннолетних — 1,1 тысячи, что на 2% больше, чем за январь-февраль 1994 года.

Каждый третий на момент совершения преступления нигде не работал и не учился. К уголовной ответственности привлечено 7,4 тысячи человек, или 84% от общего числа выявленных правонарушителей.

За истекший период раскрываемость преступлений составила 56%.

РИД.

# ЦЭНТРАЛЬНАМУ ДОМУ АФІЦЭРАЎ — 70 ГАДОЎ



Гэты манументальны будынак, які ўзняўся над рачной кручай у цэнтры Мінска, ведаюць не толькі яго жыхары, але і ў сталіцах далёкага і блізкага замежжа. Таму што на сцэне Цэнтральнага Дома афіцэраў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь гастраліравалі самыя вядомыя тэатры былога СССР, выступалі зоркі эстрады, праходзілі ваенныя мерапрыемствы міжнароднага маштабу. Гэтымі днямі калектыў ЦДА прымае віншаванні з нагоды 70-гадовага юбілею.

Сфарміраваны загадам Рэўваенсавета 22 сакавіка 1925 года ў Смаленску, акруговы Дом Чырвонай Арміі з таго часу заўсёды быў і застаецца надзейным памочнікам камандавання ў выхаванні асабовага саставу войскаў. Прычым яго работнікі, як у першыя пасля грамадзянскай вайны, так і ў наступныя гады, не чакалі, калі да іх прыйдуць. Яны самі ішлі ў гарнізоны, часці і падраздзяленні, вучылі чырвонаармейцаў грамаце, дапамагалі павышаць прафесійную кваліфікацыю камандзірам. І, вядома, словам, песнямі і танцамі сеялі ў армейскіх радах парасткі культуры, любві да Айчыны, узнімалі баявы дух і настрой воінаў на ўсіх даваенных манеўрах і вучэннях.

А калі пачалася Вялікая Айчынная, ДЧА і зусім ператварыўся ў баявое падраздзяленне. Агітмашыны з кінаперасоўкамі, экіпажы лектараў і артыстаў, часам, літаральна прарываліся пад бамбёжкай і артагнём да заўсёды ўдзячных слухачоў на перадавой. Вось толькі адна са справаздач, напісаная 23 лістапада 1942 года начальнікам агітмашыны старшым палітруком Міхаілам Каваленкам: «Прайшло 23 дні нашага рэйсу. Дадзена 42 асобныя выступленні. Абслужана 3 стралковыя дывізіі, два армейскія артпалкі, два шпіталі, КП арміі, шэраг дробных падраздзяленняў... Пад акампанемент «Кацюш» і кулямётаў у двух бліндажах байцы слухалі даклад аб бягучым моманце, а потым кінамеханік «круціў» ім фільм «Георгій Саакадзе», і мы давалі канцэрт».

Тысячы такіх данясенняў захоўваюць ваенныя архівы. Тысячы кіламетраў франтавых, часам непраезных дарог пад коламі параненых, шмат разоў рамантаваных агітмашын. Так і дайшлі ў баявым страі да самай перамогі работнікі Дома. За мужнасць і адвагу ўсе яны без выключэння былі ўзнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі.

Сёння, прымаючы віншаванні з юбілеем, цяперашні калектыў застаецца на перадавой. На вастрыі выхаваўчай і культурна-асветнай работы з асабовым саставам ствараемай якасна новай арміі суверэннай Беларусі. У нялёгкіх эканамічных і сацыяльных умовах супрацоўнікі Цэнтральнага Дома афіцэраў Міністэрства абароны Беларусі вядуць на высокім творчым узроўні работу больш як у 30 клубных аб'яднаннях, ад ансамбляў сучаснага танца «Мадэрн», фальклорных самадзейных калектываў да вельмі папулярных у маладых мінчан курсаў англійскай мовы, якія налічваюць, дарэчы, звыш 80 груп.

Асаблівыя віншаванні прымаюць старэйшыя юбіляры Дома. Не здагадваюцца наведвальнікі, што дзяжурныя вахцёры, білецёры, тэхнічныя работнікі Лідзія Калатыркіна, Клаўдзія Кучынская, Любоў Ходан, Рэгіна Луцэвіч, Наталля Нямірка, Вера Яворская — былыя франтавыя медсёстры, зенітчыцы, тэлефаністкі. Што аддана працуюць і цяпер былы артылерыст Васіль Шылін, партызан, а потым франтавы разведчык Міхаіл Немец, многія былыя афіцэры — ветэраны Узброеных Сіл, якія бездакорна ведаюць сваю справу. Нядзіўна, што з такім калектывам маладому, ініцыятыўнаму начальніку ЦДА падпалкоўніку Аляксею Дарохіну і яго намесніку маёру Барысу Шыхаву ўдаецца падтрымліваць важную і патрэбную людзям работу на пастаянна высокім узроўні. Цяпер, напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі, гэты ўзровень яшчэ больш высокі. Рэгулярна залы ЦДА запаўняюць маладыя воіны, дапрызыўнікі, школьнікі, якія прыходзяць на сустрэчу з былымі франтавікамі. Разам яны бяруць удзел у шырокамаштабных ваенна-гістарычных, патрыятычных акцыях «Крокі Вялікай Перамогі», «Ордэн у тваім доме» і іншых. Пасля такіх сустрэч пакаленняў многія юнакі ўпершыню ад ветэранаў, якія ўцалелі ў агні баёў, даведваюцца, як дорага дасталася перамога, пераглядаюць свае адносіны да армейскай службы, абавязку перад Айчынай.

Ці ж гэта не лепшая падзяка арганізатарам з ЦДА, якія сёння заслужана прымаюць віншаванні з юбілеем. За сябе і за таго хлопца, які пачынаў іх справу 70 гадоў таму.

Леанід ТРАЦЭЎСКІ, БЕЛІНФАРМ.

ПОЛЕМИЧЕСКИЕ ЗАМЕТКИ

Ирина ГЕРМАНОВИЧ, «ДВ».

# ЧЕЛОВЕК. ЭКОНОМИКА. ВЛАСТЬ.

Говорят, человеческая жизнь есть то, что человек сам о ней думает. Конечно, очень многое зависит от его натуры, характера, склада ума. Есть такие, кто смотрит на мир сквозь розовые очки. Большинство же довольно уныло глядит на окружающую действительность и все меньше и меньше питает иллюзий и надежд на светлое завтра. Жизнь пролетает стремительно, со стрессами и потрясениями, с одной стороны, и серой обыденностью, — с другой, так что некогда остановиться и осмыслить: кто я? что я? Куда и зачем все несемся в постоянном круговороте проблем? Сегодня мы очень смутно представляем, в какой стране живем, на что ориентируемся. Вроде вышли на более цивилизованный уровень: принята Конституция суверенной независимой страны, избран Президент.

Правомерно было ждать укрепления государственности, международно-правового оформления суверенитета, свободной рыночной экономики, многообразия форм собственности, прав и свобод человека. Но пока ожидания не оправдались, и нет признаков начала нового движения вперед.

Показательны результаты исследования общественного мнения на основе опроса минчан, проведенного Минским научно-исследовательским институтом социально-экономических и политических проблем. На вопрос: «Кто сегодня стоит у власти в Беларуси?» два года назад люди в подавляющем большинстве отвечали — мафия, номенклатура. И сегодня на этот вопрос ответы прежние. Есть и такое мнение: фактически у власти стоит Президент, но кто стоит за ним — не знаю. А между тем жизненный уровень упал настолько, что появилось новое крылатое изречение: качество жизни — не до жиру, уровень — быть бы живу.

Где выход из этого положения? Куда направляется наше общество? За ответом на эти нелегкие вопросы я обратилась к доктору экономических наук, члену-корреспонденту Академии наук Беларуси, заместителю председателя Мингорисполкома **Петру Георгиевичу НИКИТЕНКО.**

**— Вырваться из этого архисложного положения не так просто, но возможно. Путь один — в первую очередь нужны согласие и консолидация всех сил общества. Но обязательно на основе осмысления причин и следствий наших проблем, выбора путей их решения. Для этого как минимум надо бы осознать, что истоки следует искать не столько в сегодняшней, сколько в прошлой деятельности. Нынешнее руководство республики — заложники этой ситуации. Вспомним уникальную мысль Гегеля о том, что «истина не существует вне системы. Суть дела исчерпывается не своей целью, а своим осуществлением, и не результат есть действительное целое, а результат вместе со своим становлением. Один результат — это труп, оставивший позади себя жизнь!»**

**Какую жизнь мы прожили? Ответ можно найти в практическом использовании более 30-ти известных в мире социально-экономических теорий и воззрений. Знание их и использование — не схоластика и не теоретическая гимнастика. Ни один нынешний реформатор общества не сможет найти ничего нового. Не нужно заново изобретать велосипед. Мировая научная мысль четко и конкретно выявила всевозможные исторические стадии, типы, системы экономик и обществ.**

**Где находимся мы? Если сделать системную оценку состояния белорусского общества в контексте этих теорий, то можно сказать, что мы находимся в преддверии середины 40-х годов, в преддверии возможного формирования системы производительных сил и производственных отношений, сориентированных на социальные приоритеты. Иначе говоря, мы приблизились к следу своего естественного развития. Ни одно общество не может перескочить через естественные фазы развития или отменить их декретами. Но мы можем и должны учиться и у других, используя все лучшее, наработанное и испытанное мировым сообществом.**

Если мы действительно приблизились, напали на след естественного закона своего развития, это, конечно, уже неплохо. Во всяком случае, появилась некая точка опоры и отсчета. Однако нельзя не сказать о том, что по-прежнему наше руководство больше тяготеет к привычным командно-административным методам управления экономикой. А размытость и хаотичность политических и экономических ориентиров не позволяет определить четкие пути реформирования общества. Нашу жизнь нынче можно сравнить с эдакой сюрреалистической зарисовкой: пестрота лозунгов и установок, меняющаяся каждый день, популизм, сиюминутные обещания и требования. Ведь не секрет, что даже изменение цен, денежно-кредитной политики сегодня часто зависит не от реальных экономических возможностей и потребностей, а от политических конъюнктурных обещаний и деклараций, особенно в предвыборный период. Так что принимаемые решения воздействуют скорее на следствие, а не на причину проблемы. Три десятка политических партий аморфны и слабы. Равенство всех форм собственности признается только на словах. Более того, складывается впечатление, что кто-то кровно заинтересован в дискредитации рыночных реформ и преобразований. Провозгласили приватизацию, но так и не решили, чего мы от нее хотим. По оценкам многих экономистов, имеющийся на сегодняшний день пакет законодательных актов по приватизации представляет собой некий набор разрозненных принципов, без глубокой продуманной стратегии и механизма ее проведения. Но не зря говорят, там, где есть два экономиста, всегда есть три точки зрения. Третья — это мнение самих людей, ради которых якобы все и делается. Чтобы узнать это мнение, в принципе даже никаких опросов проводить не надо. Достаточно послушать, о чем говорят люди на остановках, в магазинах и просто на улице между собой. Хорошего мало. Слово «рынок» ассоциируется с базаром со всеми присущими ему гримасами, «предприниматель» или «бизнесмен» — с мошенничеством и спекуляцией. Все чаще мы слышим истерические восклицания типа: вернуть народу то, что отняли. Хотя удивляться не приходится. Вся наша история складывалась только из таких действий, как «отнимание» и «деление». Менялись лишь персонажи и роли. Так что наша жизнь? Игра? Если да, то почему в одни ворота? Если нет, то отчего человеком пользуются как вещью, как инструментом в руках властей предержащих, временщиков, которые начинают прозревать лишь после потери власти? Вопросы, вопросы... А где искать ответы?

И все-таки наша жизнь меняется, назад хода нет. К сожалению, очень медленно меняется сам человек. Его мышление во многом пока остается на уровне ленинско-сталинских установок. Ностальгия и поэтизация доперестроечных времен, несомненно, усиливается. И это несмотря на то, что сначала силой гнали в революцию, затем — на стройки «коммунизма». Потом началось ускорение научно-технического прогресса и перестройка. А теперь? Куда теперь? Нам сказали: в рынок. Значит, теперь надо туда. Начало этого движения пока привело к массовому обнищанию большинства, мгновенному обогащению некоторых. Естественно, большинство возмущается и все чаще вспоминает, как «хорошо и справедливо» было тогда, когда мы жили при «социализме». Но...

**— При всех достоинствах этой системы не стоит забывать о ее главном недостатке, — считает П.Г.НИКИТЕНКО. — Человек здесь не выступает целью и самоцелью богатства общества. Не является на деле свободной личностью, творцом общественных отношений. Люди сведены к роли безликих понятий: «народ», «винтиков», «факторов», начальников и подчиненных. Государство и его чиновник имели право требовать «от каждого по способностям» и давать по своему усмотрению «каждому по труду». Борьба за власть была самым эффективным средством овладеть государственной собственностью. На макроэкономическом уровне управления догматически использовались известные марксистско-ленинские модели и схемы общественного воспроизводства со всеми вытекающими отсюда выводами. То есть мы искали клад там, где его не было. И это происходило в то время, когда во всех развитых странах мира широко применялись модели, основанные на отраслевом делении воспроизводства национального продукта на материальные и нематериальные сферы. Где давно признано и вошло в практику, что самые эффективные затраты — это затраты в развитие самого человека как личности. При этом обязательно обеспечивалось приоритетное развитие нематериального производства. Доля продукта именно работников этой сферы и характеризует высокий уровень социализации, по сути, социалистичности экономик. Это и есть настоящий социализм, до которого нам шагать и шагать. Поэтому ошибаются, на мой взгляд, те, кто считает приоритетным экономическое развитие над социальным. Ведь если человек деградирует как личность, идет в упадок наука, культура, этика, профессионализм, то нельзя поднять ни сельское хозяйство, ни промышленность, особенно в странах с бедными природными ресурсами.**

**Между прочим, ярким подтверждением этому служит опыт развития Тайваня, где формулой социально-экономической политики, единения политических сил стали принципы: демократия, наука, этика. Поэтому о Тайване сейчас говорят как об экономическом чуде. Для нас же в отношении к этим принципам присущ нигилизм. Нигилизм к науке, праву, культуре, духовности имеет истоки в 1917 году — году перехода к власти швондерско-шариковской чумы, которая гордилась тем, что университетов не заканчивала. Эта чума и создала человекоотторгающую систему, которая и сегодня нередко дает о себе знать.**

Выход из этой системы мы вроде бы уже нашли. Задержки и спотыкания, конечно же, неизбежны. Главное — не свернуть в сторону. Опять, как и всегда, терпеть и надеяться или занять активную позицию? Надеяться только на себя. Такова жизнь. Иначе так и будем искать клад там, где его нет. Иначе — пойдем туда, не зная куда.

И все-таки вопрос — камо грядеши? — остается таким же актуальным и философским, как и тысячу лет назад. Куда идешь? С кем идешь? И зачем живешь на этом свете?

ТВ-ЭКРАН

# РАЗВІТАННЕ ПА ГАЙДНУ

## РОЗДУМ ПАСЛЯ ТЭЛЕПЕРАДАЧЫ

Антаніна КАРПІЛАВА.

Усё радзей, але ж раз-пораз тэлеэкран хвалюе — тэмай ці праблемай балючымі, а часам запамінаюцца разумная размова і інтэлігентныя твары. Ведаю, шмат музыкантаў зачапіла, закранула незвычайная для сённяшняга мітуслівага экрана раздумліва-трывожная танальнасць передачы «Развітанне па Гайдну» з цыкла «З музыкай на «Вы» (аўтар і вядучая Людміла Барадзіна). Сапраўды, у ёй пануюць адносіны на «Вы» — далікатныя, паважлівыя да творчай працы музыканта. А сучаснае жыццё, на жаль, спрабуе прызвычаіць нас да думкі, што музыкант — прафесія прыкладная, быццам прыкладаецца выключна да якой-небудзь свецкай падзеі — прэзентацыі ці вяселля.

Чаму развітанне? Таму што за апошнія пяць гадоў 3 буйнейшыя сімфанічныя калектывы Беларусі страцілі сваіх галоўных дырыжораў. Пайшлі з жыцця Яфімаў, потым В.Дуброўскі (Дзяржаўны сімфанічны акадэмічны аркестр), Б.Райскі (сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі), Ю.Цырук (Дзяржаўны камерны аркестр). На іх месца прыйшлі новыя кіраўнікі, а разам з імі — новыя праблемы: як прымуць дырыжораў аркестранты, сярод якіх шмат высокакласных прафесіяналаў; ці хопіць гэтым «галоўным» аўтарытэту, таленту і нават часу, асабліва калі хтосьці з іх жыве ў Германіі (!).

Праблемы музыкантаў можна разглядаць і з матэрыяльнага боку — зарплата заўсёды ніжэй за сярэднюю зарплату па рэспубліцы. А на замежных гастролях імпрэсарыо ацэньваюць нашых артыстаў як танную рабочую сілу — высвятляецца, што выгадней праз пяць межаў везці ў Італію беларускі сімфанічны аркестр, чым запрашаць свой, тутэйшы. І ўсё больш музыкантаў застаецца там, дзе іх нялёгкую працу паважаюць і хоць неяк матэрыяльна падтрымліваюць. Ці, на благі канец, нехта падаецца ў рэстараны, на мясцовы харч. «Што нас тут трымае? — задае сам сабе пытанне галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра тэлерадыё А.Лапуноў. — Я не ведаю. Але тым не менш мы працуем тут». Жабрачае існаванне творчага люду зневажае не толькі саміх музыкантаў. **Гэта праблема дзяржаўнага ўзроўню, дзяржаўнай палітыкі па культуры. Ю.Гершовіч, канцэртмайстар сімфанічнага аркестра з 30-гадовым стажам, выказаў агульную думку: «Як чалавек не можа жыць без мозгу і сэрца, так дзяржава не можа існаваць без навукі і культуры».** Ёсць, вядома, кардынальны выхад з цяжкага становішча «па Сталіну»: няма музыкантаў — няма праблем. І даволі доўга існавалі такія чуткі аб ліквідацыі сімфанічнага аркестра тэлерадыё. Дзякуй Богу, на гэты раз пранесла! Але што будзе ў наступны раз? Няўжо два сімфанічныя аркестры — гэта занадта багата на 10-мільённую краіну?

Вядома, рытарычныя пытанні не патрабуюць адказаў. Але ж яны міжволі ўзнікаюць і не знікаюць. Гляджу на сваіх малых дзяцей — няўжо «нанайцы» ці іншая «папса» будуць для іх галоўнымі музычнымі каштоўнасцямі? Масавая культура ўваходзіць у іх душы з маленства, хоць мы, бацькі, робім усё магчымае дзеля сустрэч з акадэмічным, элітарным мастацтвам. Так-так, элітарным — не будзем палохацца гэтага слова. Элітарнае — гэта значыць звяртацца да лепшага ў чалавеку, да ягонай творчай духоўнай сутнасці. Шлях да адчування і разумення высокага мастацтва цяжкі. Яшчэ больш цяжкі ён для тых, хто абраў музыку сваім жыццём і прафесіяй. Каб стаць музыкантам-выканаўцам, патрэбна спачатку гадоў 8-10 вучыцца ў музычнай школе, потым у вучылішчы, кансерваторыі, аспірантуры. Меней 20 гадоў не набіраецца! А бясконцыя конкурсы на пасады, рэпетыцыі раніцай і канцэрты ўвечары, пасля якіх фрак ці манішка зусім мокрыя! Не-не, не трэба зараз пра шахцёраў альбо вадзіцеляў МАЗаў, не трэба параўнанняў — у кожнай складанай працы свае цяжкасці. Але ж як прывабіць сучасных вучняў ці студэнтаў да іх будучай прафесіі музыканта, стан якой заўсёды — змаганне з абставінамі рознага чыну? Гэта праблема хвалюе і вядомага піяніста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі за 1994 год І.Алоўнікава (перадача «Ігар Алоўнікаў. Маналог без каментарыя» з цыкла «З музыкай на «Вы»). Сам ён знаходзіць у музыцы і ў яе выкананні мацнейшыя душэўныя перажыванні, але як растлумачыць і перадаць гэта сваім заклапочаным іншымі праблемамі вучням? «Я не ведаю», — шчыра прызнаецца музыкант. Нейкая разгубленасць і расчараванне абураюць студэнтаў на апошніх курсах вучылішча альбо кансерваторыі — набліжаецца самастойная работа. Ці патрэбна яна каму? Ведаю аб гэтым настроі і па свайму выкладчыцкаму вопыту: іншы раз прыходзіш у напалову пустую аўдыторыю ці адпускаеш студэнтаў з лекцый — яны ж амаль усе дзесьці працуюць і часам не па спецыяльнасці.

**У перадачу аб аркестрах аўтары ўключылі прарочыя фрагменты з фільма Ф.Феліні «Рэпетыцыя аркестра»: бунт музыкантаў выклікае страшэнны абвал сцен рэпетыцыйнай залы. Вельмі празрыстая метафара магчымай катастрофы. Яе можна прыстасаваць і да сітуацыі ў нашым культурным жыцці. Сапраўды, горкае гэта развітанне з таленавітымі музыкантамі — адны пайшлі з жыцця, другія пачалі новае жыццё. Але яшчэ горш уявіць сабе развітанне з музычнай культурай наогул — яна існуе, жыве тут, зараз, у гэты час!** І аўтарскія праграмы Л.Барадзіной — заўсёды асабістыя па задумцы і інтанацыі — ужо на працягу шматлікіх гадоў спрыяюць аўтарытэту мастацтва. На жаль, перадачы гэтыя, як і цыклы «Архіварыус», «Настальгічны дывертысмент», цяжка «вылавіць» на тэлеэкране. Трэба вельмі ўважліва ўглядацца ў газетныя радкі тэлепраграмы: можа, дзе-нідзе паміж палітычнымі шоу і «Каралеўскім паляваннем» прамільгне нешта і пра сапраўдную музыку. Абставіны з музычнай класікай на беларускім тэлеэкране вельмі нагадваюць агульную сітуацыю ў музычнай культуры.

**І апошняе. Існуе прыгожая і сумная легенда аб славутай «Развітальнай сімфоніі» Гайдна. У знак пратэсту супраць капрызаў князя Эстэргазі Гайдн, ягоны прыдворны кампазітар, задумаў апошнюю частку сімфоніі як паступовае знікненне музыкантаў. Вось яны адзін за адным пакідаюць сцэну і тушаць свечкі на пюпітрах. Надыходзяць цішыня і цемра...**

ФОТОРЕПОРТАЖ

# ШКОЛА, В КОТОРОЙ ИНТЕРЕСНО

Средняя школа № 71 довольно многопрофильной ориентации: химико-биологические, физико-математические, гуманитарные классы. Это позволяет детям получать более глубокие знания по тем предметам, к которым у них есть склонности.

Кроме того, в школе есть и обычные классы для тех, кто более склонен к практической деятельности. Девушки, например, изучают профессию секретаря-референта. А ребята два раза в неделю постигают азы мастера по ремонту теле- и радиоаппаратуры.

Много уделяется внимания в школе искусству, музыке, эстетике. Для эстетического воспитания здесь тоже созданы хорошие условия.

**НА СНИМКАХ: на занятиях в компьютерном классе; преподаватель по изобразительному искусству и черчению Э.А.ЖУК; в школьной оранжерее.**

**Фото Юрия ЗАХАРОВА.**

В НАШЕМ ПОЛКУ ПРИБЫЛО

# «МАКСИМУМ ИНФОРМАЦИИ — МИНИМУМ СКУКИ»

Елена КАЗИМИРОВА.

Около недели назад Министерством культуры и печати под номером 1087 было зарегистрировано еще одно новое издание. Им стал рекламно-аналитический еженедельник «От и до», первый номер которого уже с 3 апреля находится в свободной продаже в киосках «Союзпечать». Предполагается, что разнообразная информация по вопросам культуры, науки, парапсихологии, астрологии и музыки будет печататься как на русском, так и на белорусском языках, и распространяться по всей территории Беларуси. В «новорожденном» издании читатели не встретят ни слова о политике, но при этом смогут прочитать о Леониде Утесове (сто лет со дня рождения певца исполнилось 21 марта). В первом номере обнаружит читатель и заметку, посвященную известному белорусскому артисту эстрады Виктору Лукьяновичу Вуячичу, несколько месяцев назад отметившему свой 60-летний юбилей. Прочитает он также и о загадочной болезни (имя которой КВН), охватившей Белорусский государственный университет. Фестивали «Итальянская кинонетленка-2» и «Киноэксклюзив», сведения о дискотеках, новинках проката, репертуаре театров и проводимых выставках вплоть до 15 апреля (приблизительного срока выхода второго номера газеты) с указанием времени начала всех мероприятий, стоимости билетов и номеров справочных телефонов помогут минчанам, и в особенности гостям столицы, спланировать свой досуг. В качестве учредителей и спонсоров издания выступили НПФ «Эврика Лтд» и творческая фирма «АША». Перемены, происходящие в нашем обществе, заключаются в поиске утраченных моральных ценностей, новых целей и жизненного стиля, и наша газета хочет принять участие в этом процессе. «Наш девиз — максимум информации и минимум скуки, — говорит, обращаясь в редакционной статье к читателям, президент НПФ «Эврика Лтд» Юрий Мариновский. — Постараемся охватить весь спектр мнений писателей, ученых, художников, артистов, представляющих порой полярные направления в современном искусстве».

Что ж, пожелаем нашим собратьям по перу творческих успехов.

ВНИМАНИЕ!

# ВАШ ШАНС, ТАЛАНТЫ!

Валентина ЧИЖ.

**Талантливым молодым людям республики необходимо предоставить возможность стать известными во всем мире — к такому выводу пришли участники совместного собрания Молодежной палаты Беларуси и Союза молодежи республики, на котором была принята программа «Десять молодых выдающихся людей». Эта программа предусматривает конкурс работ в областях бизнеса, политического управления, академического руководства, культуры, защиты окружающей среды, благотворительной деятельности, гуманитарного и технического развития, самосовершенствования личности, медицины, науки и технологии. В конкурсе могут принимать участие все желающие в возрасте от 18 до 40 лет, которые получили белорусское гражданство не позже 1 января 1993 года. Лучшие работы конкурсантов будут отсылаться в штаб-квартиру Международной палаты в Майами для дальнейшей оценки. Победителя ждет денежное вознаграждение в размере 10 тысяч долларов, которое будет вручаться в ноябре этого года в британском городе Глазго на всемирном конгрессе Международной молодежной палаты. Итак, если кто-то заинтересовался конкурсом и решил принять участие в нем, обращайтесь за дополнительной информацией в Молодежную палату Беларуси или в Союз молодежи.**

НАВУКА

# УРАТАВАННЕ АКАДЭМІІ — У ЯЕ РАЗВІЦЦІ

Акадэмія навук Беларусі просіць лічыць яе нацыянальнай і цалкам аддае сябе на літасць А.Лукашэнку. У апошні дзень сесіі Агульнага сходу Акадэміі навук Беларусі яе прэзідэнт акадэмік Леанід Сушчэня зачытаў зварот да Прэзідэнта А.Лукашэнкі, падрыхтаваны прэзідыумам АНБ ад імя сесіі Агульнага сходу. «Выратаваць Акадэмію ад поўнага развалу, — гаворыцца ў звароце, — можа толькі Ваш указ аб яе развіцці». І далей — пераканаўчая просьба паскорыць падпісанне пажаданага ўказа, у якім прадугледжаны значныя надбаўкі да акладаў акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў. Удзельнікі сесіі, у асноўным з акадэмічнымі званнямі, ахвотна дазволілі Л.Сушчэні апеляваць да Прэзідэнта ад іх імя. Аднак наўрад ці можна разлічваць, што А.Лукашэнка паспяшаецца выканаць гэтую просьбу. Менавіта таму, што, мяркуючы па словах з яго віншавання з Днём беларускай навукі, у яго зусім іншыя ўяўленні аб ролі навукі ў грамадстве: менавіта яна, гаварыў Прэзідэнт, павінна дапамагчы Беларусі «выжыць у сучасным навукаёмістым свеце». Утварылася парадаксальнае процістаянне меркаванняў па пытанню, хто каму павінен дапамагчы выжыць: рэспубліка — навуцы ці навука — рэспубліцы? Парадаксальнае — таму, што пазіцыю «моцнай» навукі адстойвае Прэзідэнт рэспублікі, а пазіцыю «слабай», не здольнай сябе пракарміць, якая мае патрэбу ў дзяржаўных падачках, — прэзідэнт Акадэміі навук. Хто з іх мае рацыю, вырашыць час. Пакуль жа можна канстатаваць, што ніякіх спроб ператварыць акадэмічную навуку ў «моцную», у галоўны фактар сацыяльнага развіцця яе цяперашняе кіраўніцтва не зрабіла. Сесія Агульнага сходу АНБ прыняла рашэнні: ўвесці верхнюю мяжу ўзросту 65 гадоў для заняцця пасад дырэктараў інстытутаў і членаў прэзідыума, а таксама «дапусціць» членаў-карэспандэнтаў да ўсіх вышэйшых пасад у прэзідыуме, выключаючы пасаду прэзідэнта Акадэміі. Што ж, вышэй за сябе не скокнеш, крок да большай дэмакратызацыі зроблены. Але ёсць падставы меркаваць, што асноўныя дэмакратычныя пераўтварэнні ў Акадэміі навук Беларусі яшчэ наперадзе.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

КУЛЬТУРА

# НАПЯРЭДАДНІ КІНАФОРУМУ

Сярэдзіна мая можа падарыць аматарам кіно цудоўнае свята — трэці Міжнародны фестываль жаночага кіно. Агаворка «можа» ў кантэксце гэтага адзінага на тэрыторыі былога Саюза і Усходняй Еўропы кінафоруму зусім не выпадковая: калі арганізатары фестывалю, а гэта Саюз кінематаграфістаў нашай рэспублікі і студыя «Таццяна», не збяруць неабходныя сродкі, яго правядзенне будзе праблематычным.

Ні многа, ні мала, а цэлых 100 тысяч амерыканскіх долараў спатрэбіцца для таго, каб размясціць удзельнікаў і гасцей з 15 краін свету, арандаваць залы кінатэатраў «Масква», наняць перакладчыкаў, выдаць паліграфічную прадукцыю. Дарэчы, аб справах выдавецкіх. Беларускія фірмы «Цішкоў-паблішэр» і «Дом мейджык» узяліся бясплатна выдаць каталогі, праграмкі, плакаты, буклеты — карацей кажучы, усё, што трэба мець такому прадстаўнічаму форуму. І гэта не адзіныя спонсары. Міжнародная кампанія «Трансайр» бярэцца перавезці за свой кошт удзельнікаў з Германіі і Швейцарыі. Амерыканскае пасольства ў Мінску гатова ўзяць на сябе ўтрыманне сваіх суайчынніц на працягу ўсіх пяці фестывальных дзён. Фінансавую падтрымку аказваюць Фонд Сораса, Брэменскі інстытут кіно і тэлебачання, Швейцарскі фонд дапамогі развіццю культуры. Беларускія мастакі і дызайнеры гатовы без аплаты заняцца афармленнем сцэны на ўрачыстыя мерапрыемствы фестывалю...

Увогуле, прыгожыя жанчыны з аргкамітэта могуць назваць з дзесятак імён і фірм, якія дапамагаюць не загінуць фестывалю, што атрымаў у 93-м велізарны рэзананс ва ўсім свеце. І ўсё ж тысяч 40 долараў яшчэ не хапае. І перш, чым расказаць аб праграме кінафоруму і яго ўдзельніцах, старшыня праўлення студыі «Таццяна» вядомы кінааператар Таццяна Логінава напомніла аб гэтай праблеме, падкрэсліла, што фірмы або асабістыя спонсары фестывалю будуць прадстаўлены ў яго праграме і каталогах.

— Заяўкі на ўдзел у фестывалі атрыманы з Еўропы, Азіі, Амерыкі, — расказвае Таццяна Логінава. — Шырока будуць прадстаўлены стужкі нашых калег з краін СНД і Сярэдняй Азіі. Найбольш шматлікія дэлегацыі чакаюцца з Расіі, Злучаных Штатаў і Германіі. Конкурс, у журы якога запрошаны толькі вядомыя ў свеце мужчыны-кінарэжысёры, аператары, сцэнарысты, крытыкі, будзе праходзіць па трох намінацыях: ігравое, дакументальнае і анімацыйнае кіно. У свеце фестывалі жаночага кіно (а яны праходзяць у Францыі, ЗША, Германіі, Ірландыі і Швейцарыі) вельмі папулярныя і прэстыжныя. Яны выступаюць супраць дыскрымінацыі жанчын, знаёмяць з выдатнай творчасцю гэтай часткі чалавецтва. І хоць наш фестываль не мае феміністкага характару, ён будзе трыумфам жаночага інтэлекту. Будзе шмат дэбютаў і нямала вядомых імён. Кінафорум быццам бы адкрые граніцы культурнай прасторы не толькі былога СССР, але і ўсіх кантынентаў.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛІНФАРМ.**



# КРОССВОРД

Составил А.ВАЛЬКОВСКИЙ, г. Минск.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Женское ювелирное украшение. 2. Изобретатель, создавший первый планер, на котором совершил полет человек. 3. Документ на право льготного проезда. 4. Действующий вулкан на острове Парамушир. 5. Травянистое растение семейства сложноцветных. 6. В начале X века в России земельный участок, выделенный крестьянину из общинной земли. 7. Начальная стадия шашечной, шахматной партии. 8. Камень в форме параллелепипеда, употребляющийся для кладки зданий. 9. Войлочный ковер из верблюжьей или овечьей шерсти. 14. Птица семейства синицевых. 15. Разменная монета Греции. 16. Город на юге Турции. 20. Звезда первой величины в созвездии Девы. 21. Город и порт в Иордании. 22. Смоковница, фиговое дерево. 23. Часть пласта полезного ископаемого, не извлеченная в процессе разработки месторождения. 24. 3-струнный киргизский народный инструмент. 25. Наиболее деятельная часть коллектива. 30. Золотая монета в Индии, чеканилась в XVI веке. 31. Одна из количественных характеристик геометрического тела. 32. Гнев, немилость. 36. Женское помещение в мусульманском доме. 37. Птица семейства рябков. 38. Парнокопытное животное семейства жирафовых. 39. Сумма или размер после исключения потерь, затрат и т.д. 40. Французский астроном, пришедший к выводу, что Земля не имеет точной формы шара. 41. Руководитель ф-та в вузе. 46. Хим. элемент 7-ой группы периодической системы Менделеева. 47. Фамилия 6-го президента США. 48. Коралловое сооружение в форме кольца.

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 4. Женское имя. 6. Декоративное покрытие из тонких листов золота или серебра на иконе, книжном переплете. 8. Духовное лицо в средневековой Франции и Англии. 10. Ковбойский спорт. 11. Город и порт на острове Хоккайдо, Япония. 12. Устаревшее название обезжиренного молока. 13. Правитель Магадахи из династии Маурьев. 17. Хронический насморк с потерей обоняния. 18. Порт во Франции, на полуострове Бретань. 19. Княжеский титул в Индии. 20. Устаревшее название единицы силы света. 22. Юридическое лицо, обращающееся с иском в суд. 24. Парнокопытное животное семейства полорогих. 26. Пристенная открытая печь с прямым дымоходом. 27. Город в Польше. 28. Наиболее высокий горный массив в Греции. 29. Простейшее приспособление для определения вертикального направления. 33. Площадь, на которой проходило народное греческое собрание. 34. 3-струнный киргизский народный инструмент. 35. Начало хоровой песни, исполняемое одним или несколькими певцами. 36. Единица магнитной индукции в СГС-системе единиц. 38. В греческой мифологии: один из богов-титанов, сын Урана. 40. В греческой мифологии: верный друг Ореста. 42. Сценический монолог, произносимый вслух, «неслышимый» для других актеров. 43. Образец, нечто совершенное, цель высших стремлений. 44. Переход голосового аппарата к певчему состоянию. 45. В ряде государств административная территориальная единица. 49. Одна из основных физических характеристик материи. 50. Название города Токио до 1869 г. 51. Плотная мягкая шерстяная ткань с короткими завитками густого ворса на поверхности.

